*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№8 верасень 2011***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

# Алесь Бяляцкі

## па ранейшаму за кратамі



***Алесь Бяляцкі, вядомы праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", актыўны змагар за незалежнасць Беларусі, чалавек, які бароніць ідэі свабоды і справядлівасці ў Нашай Краіне, літаратар і дысідэнт .***

# Алеся Бяляцкага вылучаюць на Нобелеўскую прэмію міру



Старшыня праваабарончага цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі вылучаны на Нобелеўскую прэмію міру за заслугі ў справе абароны правоў чалавека 2012-га года.

Пра стварэнне Міжнароднага арганізацыйнага камітэта абвясціла старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна пад час прэс-канферэнцыі 3-га верасьня, паведамляе Праваабарончы Цэнтр "Вясна". На сёньня ў складзе камітэта выбітныя палітыкі і праваабаронцы з многіх краінаў свету, сярод якіх Людміла Аляксеева, старшыня Маскоўскай Хельсінскай групы, Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Сухайр Белхасэн, прэзідэнт БНР Івонка Сурвіла, рэктар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Анатоль Міхайлаў і іншыя. Пакуль у адкрытым спісе сябраў камітэту 29 асобаў.

“Нашае грамадства без дзейнасці праваабарончых арганізацыі,без працы Алеся Бяляцкага шмат страціла. Менавіта беларускія праваабаронцы і цэнтр “Вясна” узялі на сябе пасьля 19-га сьнежня 2010-га года клопат пра палітрэпрэсаваных і іх сем’і, дзякуючы чаму людзі справіліся са страхам і бездапаможнасцю”, - заявіла Жанна Літвіна.

Сябар камітэта, лаўрэат прэміі імя Сахарава 2006 года Аляксандр Мілінкевіч адзначыў наступнае:

“Для мяне Алесь Бяляцкі – гэта чалавек, які без сумневаў адпавядае ўсім крытэрам, якія павінны быць здзейснены пры вылучэнні на Нобелеўскую прэмію. Яму дастатковы было б быць проста гістарычным беларусім праваабаронцам. Але мне падаецца, што яшчэ і высокаграмадскі, маральны чалавек, чалавек моцнага духу. І ён сваім прыкладам паказвае, якім мусіць быць сапраўдны грамадзянін”.

Алесь Бяляцкі двойчы вылучаўся на Нобелеўскую прэмію міра: у 2006-ым і 2007-ым гадах.

## Справа Алеся Бяляцкага накіравана ў суд



Справу ў дачыненні да Алеся Бяляцкага будзе разглядаць суд Першамайскага раёна сталіцы.

Пра гэта паведаміў старшы памочнік пракурора Менска Сяргей Балашоў.

Крымінальная справа была накіравана ў суд 4-га кастрычніка. Мера стрымання ў дачыненні да Алеся Бяляцкага не змянілася, ён застаецца пад вартай, паведамляе Радыё Рацыя.

Вядомы беларускі праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі знаходзіцца пад арыштам з 4-га жніўня. Яму прад'яўлена абвінавачванне па частцы 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры).

Як паведамлялася раней, падставай для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала інфармацыя аб яго рахунках у замежных банках, перададзеная беларускім уладам Мінюстам Летувы і Генпракуратурай Польшчы. Улады гэтых краін публічна папрасілі прабачэння ў Бяляцкага і яго родных, а таксама прыпынілі кантакты з Беларуссю ў рамках дагавораў аб прававой дапамозе.

Вызвалення Бяляцкага патрабуюць міжнародныя праваабарончыя структуры, кіраўніцтва Еўрасаюза, ЗША і шэрагу іншых дэмакратычных краін.

## Лісты ад Алеся Бяляцкага больш не даходзяць да сяброў і блізкіх



Родныя і сябры зьняволенага старшыні Праваабарончага цэнтру Вясна” Алеся Бяляцкага перасталі атрымліваць ад яго паштовую карэспандэнцыю. Жонка Наталля, прыкладам, атрымала апошні ліст ад мужа, які быў датаваны 20 верасьнем. Нехта з сяброў Алеся не атрымаў адказу на 3 і нават болей лістоў. Супрацоўнікі ПЦ “Вясна” не ўпэўненыя нават у тым, ці атрымлівае сам Бяляцкі карэспандэнцыю з волі.

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч не хавае сваёй заклапочанасьці і выказвае трывогу, што для Бяляцкага ў СІЗА створаная адмысловая інфармацыйная блакада. Асабліва гэта непакоіць цяпер, калі неўзабаве будзе прызначаная дата суду і праваабаронцу патрэбна маральная падтрымка і салідарнасьць калег і сяброў.

Калі бліжэйшымі днямі сітуацыя з затрымкай лістоў не зьменіцца, праваабаронцы будуць рабіць захады для разьвязаньня гэтай незразумелай праблемы і найперш зьвернуцца з запытам да начальніка Менскага СІЗА №1, дзе больш за два месяцы ўтрымліваецца пад вартай Алесь Бяляцкі.

# Малы праваабарончы слоўнік

## *(з трасянкі і калькі на беларускую мову)*

аб – толькі ў дачыненьні да назваў законаў, у іншых выпадках трэба выкарыстоўваць прыназоўнік **“пра”**
аб тым – **пра тое**
абавязальніцтва – **забавязаньне**
абараняць – **бараніць**
абараніць – **адбараніць**
абвергнуць – **аспрэчыць, зьняпраўдзіць**
абвінаваціць – **зьвінавацiць**
аб’явіць – **абвясьціць**
адабрэньне – **ўхваленьне**
адмяняць – **касаваць, скасоўваць**
адначасова – **адначасна**
адстойваць правы – **бараніць правы, адбараніць**
барацьба – **змаганьне**
беззаконьне – **няпраўнасьць, няправасьць**
бесчалавечнае абыходжаньне – **нечалавечае абыходжаньне**
вобыск – **вышук, перaтрус**
вопыт – **досвед**
выбуханебясьпечны **- выбухоўны**
вымушаныя зносіць – **змушаныя цярпець**
вынесена папярэджанне – **абвешчана папярэджанне, зроблена**
вынесены прысуд – **абвешчаны прысуд**
ганеньне – **перасьлед, уціск**
для аказаньня медычнай дапамогі – **для медычнай дапамогі**
допраўпарадкаванне – **парадкаваньне**
з прымяненьнем фізічнай сілы – **сілай, гвалтоўна, брутальна**
законапаслухмяны – **законлівы**
затым – **пасьля**
знаёміцца з матэрыяламі справы – **вывучаць матэрыялы справы**
зьяўляецца – **ёсьць**
існуючы – **існы**
кіруемы – **кіраваны**
любы – **кожны, усякі, хоць які**
міліцыянер – **міліцыянт**
мэтазгоднасьць – **дамэтнасьць**
мэтанакіраванасьць – **мэтнасьць**
мэтанакіравана – **мэтна**
напрамак, накірунак – **кірунак**
напрамую – **наўпрост**
напрыканцы – **у канцы, пад канец**
насільле – **гвалт, насіленьне**
наступства – **наступнасьць**
неабходна – **патрэбна**
недахоп – **загана; хіба; нястача, брак**
непазьбежна – **няўхільна**
непасрэдна – **безпасярэдне**
ноччу – **уночы**
па – **паводле; з; у; на; згодна з**
пабоі – **біцьцё, зьбіцьцё**
павінен быць – **мусіць**
падаўленьне – **здушэньне, уціск**
падвяргацца ціску – **падпадаць пад ціск**
падрыхтоўка – **рыхтоўля, рыхтаваньне**
пад час – **у час**
пакараньне – **кара**
паколькі – **бо**
паручыцельства – **паручальніцтва**
паўсюдна – **паўсюль**
пікетчык, пікетоўшчык – **пікетовец**
пісьмо – **ліст**
праізвол – **сваволя, свавольства**
праявіць – **выявіць**
прыведзены ў выкананьне – **выкананы, зьдзейсьнены**
прымірэньне – **замірэньне**
прымяніць сілу – **ужыць сілу**
прымяніць закон – **скарыстаць закон**
прысутнічаць – **быць**
поўнасьцю – **цалком, напоўніцу**
пошук – **шуканьне**
правасуддзе – **судовасць**
прадаўжаць – **працягваць, падаўжаць**
прадпісаньне – **наказ**
праявіць – **выявіць**
прама – **проста, наўпрост**
прыгаварыць – **прысудзіць**
прыгавор – **прысуд**
прымаць удзел – **браць удзел**
разбор па справе – **разгляд справы**
рашэнне – **пастанова**
садзейнічаць – **спрыяць**
своечасова – **у час**
справа ў тым – **рэч у тым**
справіцца – **даць рады**
сумесна – **разам**
супрацоўніцтва – **супраца**
так як – **бо**
тычыцца – **датычыць**
увядзеньне мараторыя – **уводзіны мараторыя**
узбуджана крымінальная справа – **распачата крымінальная справа**
узровень – **ровень**
у адносінах – **у дачыненьні**
у выпадку – **у разе**
у сваю чаргу – **сваім парадкам**
у сувязі – **у звязку**
у якасці сьведкі – **сьведкам, як сьведка**
хаця – **хоць**

# Хроніка парушэнняў і пераследу

*((( Гарадзеншчына, верасень )))*

**У пачатку верасьня** навуковай супрацоўніцы Гарадзенскага Дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музею Тацяне Касатай адмовілі ў прадаўжэньні працоўнага кантракту. Тацяна ёсьць актывісткай кампаніі “Гавары праўду!”. Пад час передвыбарчай кампаніі ўваходзіла ў склад ініцыятыўнай групы ў падтрымку Уладзіміра Някляева.

**У пачатку верасьня** студэнтку 6-га курса лячэбнага факультэту Гарадзенскага медыцынскага універсітэту Кацярыну Герасімчык пазбавілі права пражываньня ў студэнцкім інтэрнаце. Прычына – яе актыўны ўдзел у кампаніі “Гавары праўду”, грамадскіх моладзевых акцыях.

**6 верасьня** Гарадзенскі абласны суд пакінуў без зьменаў прысуд інваліду 3-й групы Яўгеніі Васьковіч, якую затрымалі пад час акцыі маўклівага пратэсту 6 ліпеня. Суддзя Аляксандр Козел пацьвердзіў, што яна абавязаная заплаціць 840 тысяч рублёў штрафу. Пенсія ў Васьковіч – 390.000 рублёў. Скаргі на штрафы падавалі ў абласны суд больш за дваццаць асуджаных за маўклівыя акцыі. Але ўсе гэтыя скаргі былі адхіленыя. Толькі ў адным выпадку справа накіраваная на новы разгляд, але гэта нічога не дало: новы суддзя пацьвердзіў ранейшы прысуд.

**9 верасьня** ў Ваўкавыску адбыўся суд над мясцовым актывістам Віталём Гуляком. Яго зьвінавацілі па частцы першай артыкулу 23.34 (удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве). 19 жніўня Віталь быў затрыманы міліцыянтамі пад час распаўсюду ўлётак, якія заклікаюць да Народнага сходу, запланаванага на 8 кастрычніка. Праз дзесяць дзён на актывіста быў складзены пратакол. Суд пад старшынством Тацяны Шукайлы пастанавіў спагнаць з Гуляка штраф – 30 базавых велічынь.




**13 верасьня** Слонімскі раённы суд пад старшынством суддзі Тацяны Хамінец адмовіў у скарзе на мясцовы райвыканкам дэмакратычнаму актывісту Івану Бедку. Нагадаем, што у Слоніме мясцовыя ўлады не дазволілі правядзеньне двух пікетаў: у абарону палітзьняволеных і супраць зьбядненьня насельніцтва, якія мелі адбыцца 6-га і 14-га жніўня. У пісьмовых адмовах райвыканкаму гаворыцца, што заяўкі на правядзеньне пікетаў не адпавядаюць артыкулу 5 закону “Аб масавых мерапрыемствах”.

**20 верасьня** Гарадзенскі абласны суд разглядзеў касацыйную скаргу журналіста Андрэя Пачобута. ¨н абскарджваў свой прысуд: тры гады зьняволення з адтэрміноўкай пакараньня на два гады. Суд не задаволіў касацыйную скаргу Пачобута і пакінуў прысуд без зьменаў. Сам Пачобут заявіў, што будзе абскарджваць прысуд у Вярхоўным судзе. А калі не задаволяць там, у судзе па правах чалавека ААН.

**19 верасьня** пад час начной расклейкі агітацыйных улётак да акцыі 21 верасьня ў Гародні былі затрыманыя маладафронтаўцы Вераніка Велігор і Алесь Кіркевіч. Іх затрымалі прадстаўнікі АМАПу, адвезьлі ў аддзяленне

# Хроніка парушэнняў і перасьледу

*((( Гарадзеншчына, верасень )))*

міліцыі на Дзевятоўцы, дзе яны правялі некалькі гадзін. У Велігор забралі ноўтбук, на яе склалі рапарты і пратаколы вобшуку. Пасьля адбыўся ператрус у кватэры Кіркевіча, дзе забралі сістэмны блок. Матэрыялы перададзены ў адміністрацыю Ленінскага раёну, якая вызначыць суму штрафу.

**21 верасьня** пачалося судовае паседжаньне адміністрацыйнага працэсу над Віктарам Сазонавым, якое вяла суддзя Ксенія Стасюкевіч. Нагадаем, што Сазонаў быў затрыманы ў канцы акцыі ў падтрымку Алеся Бяляцкага 23 жніўня ў гарадскім парку імя Жылібера. У працоўным памяшканьні і дома ў Сазонава былі праведзены ператрусы, забраныя два кампутары, кашулькі з выявай Алеся Бяляцкага, а таксама кніжкі, розныя газеты і бюлетэні. Праваабаронцу трымалі ў міліцыі каля 4 гадзін, бралі тлумачэньні. Пазьней быў складзены пратакол пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэньне. Урэшце суд быў перанесены на 10 кастрычніка.

**23 верасьня** старшыня гарадской арганізацыі Партыі БНФ Вадзім Саранчукоў быў выкліканы ў КДБ. Супрацоўніка КДБ цікавіла, ці ведамыя актывісту пэўныя фонды, якія фінансуюць грамадзянскія праграмы ў Беларусі.

**25 верасьня** гарадзенскія праваабаронцы ўзялі ў дзел у агульнабеларускай акцыі праваабаронцаў у Менску, якая была прымеркаваная да дня



нараджэньня Алеся Бяляцкага. Пасьля заканчэньня акцыі быў затрыманы праваабаронец Уладзімір Лабковіч.

**26 верасьня** журналісту Андрэю Пачобуту пасьля наведваньня крымінальна-выканаўчай інспекцыі забаранілі выезд за мяжу. Позву прыйсьці ў інспекцыю і стаць на ўлік карэспандэнт «Газэты выборчай», асуджаны за артыкулы з крытыкай улады, атрымаў адразу пасьля таго, як вярнуўся з Варшавы, дзе сустрэўся з міністрам замежных спраў Польшчы Радаславам Сікорскім і наведаў Беларускае Радыё Рацыя. У Пачобута чарговы раз узялі адбіткі пальцаў і абвесьцілі, што на яго накладзены дадатковыя абмежаваньні. Па-першае, гэта забарона выезду за мяжу. Па-другое, Пачобут абавязаны тры разы на месяц адзначацца ў інспекцыі. Трэцяе абмежаванне – забарона зьмяняць месца жыхарства без дазволу МУС. Андрэя Пачобута папярэдзілі: “тры парушэньні – і пойдзеш «на зону»”.

**Верасень.** Ужо больш месяцу праходзіць сьледства над сябрамі БНФ, якія падазраюцца паводле артыкула Крымінальнага Кодэксу "хуліганства здзейсненае групай асобаў". Паездка ў Менск на вочную стаўку, на якую запрасілі гарадзенца Максіма Губарэвіча, намесьніка старшыні гарадзенскага БНФ, завяршылася нічым. Калі ён прыехаў у вызначаны час на вочную стаўку, яму паведамілі, што яе не будзе, таму што сведка кудысці зьехала.

Калі адвакат зьвярнуўся да намесьніка старшыні сьледства з просьбай, каб Губарэвіча не прыцягвалі на такія бессэнсоўныя вочныя стаўкі, прадстаўнік сьледства адказаў: “Можа не езьдзіць, тады мы з свайго боку можам зьмяніць яму меру стрыманьня на арышт, каб ён быў у Менску і нікуды не езьдзіў”. Гэта было сказана ў тоне, падкрэсьліваючым непавагу да Губарэвіча і да адваката.

# К р а т ы  і  с т а л ы

***На фоне паглыблення ў Беларусі гаспадарчага крызісу, няўхільнай дэвальвацыі беларускага рубля, няўмольнага росту цэнаў і прастрацыі ў грамадстве, раптам кіраўнік дзяржавы загаварыў пра патрэбу круглага стала з удзелам улады і апазіцыі, а таксама прадстаўнікоў Расеі ды Еўропы. З'явілася і інфармацыя, што ўлада збіраецца выпусціць ні то да канца кастрычніка, ні то да канца году ўсіх зняволеных паводле палітычных прычынаў. Тых, хто пагадзіўся напісаць адпаведнае прашэнне аб памілаванні, выпусцілі ўжо. Мы не маем ніякага права ні хваліць, ні асуджаць іх за гэты крок, а за кожнага незаконна асуджанага, а цяпер выйшаўшага на волю, асобна можна і парадавацца. Але ж, але…***

Але перыяд "паўзучых" і "адкладзеных" рэпрэсій у Беларусі працягваецца. Возьмем хоць бы сітуацыю ў Гародні. Па-ранейшаму пераследуецца лідар рэгіянальнай "Вясны", грамадскі праваабаронец Віктар Сазонаў, які нядаўна быў затрыманы міліцыяй за раздаванне матэрыялаў пра зняволенага Алеся Бяляцкага. Па месцы жыхарства і працы Сазонава былі праведзены вышукі з чарговым забіраннем кампутараў і "крамольных" інфармацыйных матэрыялаў. У ліку іншага "на экспертызу" былі канфіскаваныя і ўсе асобнікі газеты "Ніва", афіцыйнага выдання, але з-за мяжы. Відаць, некаму вельмі не хочацца, каб жыхары Гарадзеншчыны чыталі і ведалі пра жыццё беларусаў Беласточчыны. Цяпер майго сябра чакае адміністрацыйны суд за выраб і распаўсюд "незарэгістраванай друкаванай прадукцыі".

Іншыя прыклады з гораду над Нёманам. Адзін з лідараў мясцовага БНФ "Адраджэнне" Максім Губарэвіч зараз знаходзіцца пад следствам па крымінальнай справе – нібыта за збіццё разам з сваімі паплечнікамі п'янага ахоўніка менскага партыйнага офісу. Моладзевая актывістка беларускага руху Кацярына Герасімчык, шасцікурсніца Гарадзенскага медыцынскага ўніверсітэту за ўдзел у "няправільных" акцыях пазбаўлена права пражывання ў студэнцкім інтэрнаце. Удзельніцу грамадскай кампаніі "Гавары праўду!" Тацяну Касатую, якая працавала і ў выбарчым штабе Уладзіміра Някляева, звальняюць з працы з дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея: фармальная падстава – скончыўся кантракт. І гэта толькі ў адным горадзе за кароткі прамежак часу.

Не трэба нікому забывацца і на тое, што дагэтуль па розных палі-



тычных справах 26 чалавек знаходзяцца ў турме і на "хіміі", яшчэ 8 чалавек з умоўным альбо адтэрмінаваным пакараннем. Пакуль палітвязні за кратамі, сядаць за нейкія круглыя сталы проста амаральна. І тым не менш значная частка апазіцыйных палітыкаў гатовыя, па іх словах, "да перамоваў хоць з д'яблам". Пра гэта заявілі некаторыя лідары Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, у прыватнасці Леў Марголін, старшыня экс-камуністаў, а цяпер "Справядлівага свету" Сяргей Калякін, невыразна і двухсэнсоўна, як зазвычай, выказаўся прадстаўнік БНФ Рыгор Кастусёў. Але дзе ж палітычныя і маральныя прынцыпы гэтых спадароў "застольнікаў"? Ці яны сляпыя як краты пад зямлёй, што забыліся на людзей за кратамі, ці сапраўды вераць у рэальнасць такога палітычнага круглага стала?

Некалькі такіх гульняў у "дыялог" ужо праводзілася раней. Ніякіх рэальных дывідэндаў прадстаўнікам грамадскай супольнасці гэта не дало, ніякіх палітычных зрухаў і пазітыўных зменаў не адбылося. І вось зноў чарговы прапагандысцкі хітрык, маўляў, улада заўсёды гатовая сядаць і дамаўляцца з прадстаўнікамі "здаровых" апазіцыйных сілаў. І хто толькі будзе вызначаць гэтую "здаровасць"?! Больш таямніча выглядаюць закулісныя еўрапейскія гульні вакол Беларусі. То Летува прызначаецца ў якасці пасярэдніка, то нямецкі і польскі прэм'еры прылятаюць у Менск з прапановамі, то ўжо нібыта Баўгарыя вядзе патаемныя перамовы пра ўмовы крэдытаў і эканамічных прэферэнцыяў.

Відавочна пакуль толькі адно – паслядоўнасці і логікі ў гэтай палітыцы замала. Замала для таго, каб у Беларусі адбыліся сапраўды істотныя змены, а людзі атрымалі законнае права на вольныя справядлівыя выбары, а таксама іншыя асноўныя канстытуцыйныя правы. І больш за тое, краіны Еўразвязу дайшлі да таго, што выдалі рэпрэсіўным уладам Беларусі звесткі пра грамадскіх беларускіх лідараў, з-за чаго ўжо арыштавалі Алеся Бяляцкага, дапытваюць зараз іншых. Такія вось гульні "пад сталом".

***Уладзімір Хільмановіч***

# Лекі і самалячэнне

***Калі чалавек занямог, то, зразумела, ён пачынае ўжываць лекі. Калі занемагла краіна, то варта, хіба, зрабіць тое сама. Але вось праблема – важным ёсць правільна паставіць дыягназ, каб можна было набыць сапраўды неабходны лек які дапаможа. Бо практыкаванне не таго лячэння, якое трэба, можа не толькі пагоршыць сітуацыю, але і прывесці да непапраўных наступстваў.***

Спачатку пра людзей. У Беларусі заяўлена, што ў хуткім часе вялікую частку лекаў, якія раней ў аптэках прадаваліся вольна, можна будзе набыць толькі па рэцэпту доктара. Маўляў, няма чаго займацца самалячэннем. Тут патрэбна рашэнне спецыялістаў.

Зразумела, што на аўтарытэт спецыялістаў ад медыцыны ніхто не пасягае, не пасягаў і не збіраецца. Калі гаварыць як ёсць насамрэч, то і раней, многія медыцынскія прэпараты ў Беларусі прадаваліся выключна па рэцэптах, выпісаных у паліклініцы або шпіталі. Але ж ёсць прышчы, якімі дурыць галаву спецыялісту не толькі непатрэбна, але і сорамна. Тым не менш, зараз заяўлена, што 95 адсоткаў тых надзеяў на палёгку будзе рэалізоўвацца выключна па рэцэптах медыцынскіх устаноў. І ўсё гэта нібыта з найгуманнейшай мэтай, якая мусіць адвучыць беларусаў ад самалячэння. Як гаворыцца, усялякую справу можна давесці да абсурду. Але нам тут не прывыкаць. Не першы раз.

Праўда, не ўсе людзі паверылі ў шляхетныя памкненні тых чыноўнікаў, якія дадумаліся да такога ўскладнення набыцця лекаў. Справа ў тым, што лекі, прынамсі вялікая іх частка, купляюцца за мяжой і за валюту. Беларускі рубель валютай не з'яўляецца. А з іншымі банкаўскімі купюрамі, якія лічацца канвертыруемымі, у краіне невялічкая напруга. Невялічкая, гэта мякка кажучы. Вось хіба што і надумаліся зберагчы валюту такім чынам. Ці з'явіцца ад гэтага валюта ў краіне пакуль невядома, а вось у народа ўжо з'явілася новая прымаўка: – "Здароўе за рублі не купіш".

І вось цяпер, па кожнаму дробнаму недамаганню, з якім чалавек дваццаць першага стагоддзя сам павінен ведаць як справіцца, трэба ісці да лекара. А да яго хадзіць па рэцэпт не толькі не хочацца, але і небяспечна. Бо з надыходам грыпа і іншых эпідэмій, што перадаюцца паветрана-кропельным шляхам, у доўгіх чэргах да беларускіх дактароў заразіцца гэтымі хваробамі прасцей чым у прабірцы з мікробамі. А пасля яшчэ выпадае прывалачы гэтыя вірусы ды бактэрыі дахаты. Ды ўвогуле ў тых чэргах да беларускага лекара памерці можна хутчэй, чым убачыш таго чалавека ў белым халаце. Таму грамадзянін краіны з унікальным шляхам развіцця будзе цярпець боль і нязручнасць, але да доктара не пойдзе. Таму і лекаў ён не набудзе. А для ўнікальнай сістэмы эканомікі зберажэ такую неабходную валюту.




Цяпер пра дзяржаву. Яе кіраўніцтва адсутнасць валюты не называе крызісам. І пазыкі, якія вісяць на будучых пакаленнях таксама так не называе. І рэцэптаў на лячэнне эканамічнай сітуацыі ні ў каго браць не збіраецца. Ні на Ўсходзе, дзе могуць падтрымліваць хваробу беларускай эканомікі ў хранічным стане на пэўных умовах, ні на Захадзе, дзе, як паказала жыццё і развіццё, дыягназы выхаду з крызісу ставіць умеюць. І эканамічныя хваробы лячыць таксама.

Толькі вось бяда, не падабаецца нашым чыноўнікам тое, што ў рэцэпце іхных заходніх спецыялістаў напісана. Маўляў, не трэба нам ніякіх умоваў выстаўляць палітычнага характару. Бо хваробу мы хочам вылечыць эканамічную. А палітычную сістэму збіраемся пакінуць без зменаў.

Што тут скажаш. Відаць беларускія лекары ад эканомікі не ведаюць галоўнага правіла. Калі лечыцца хвароба, то трэба шукаць яе прычыны. Бо ў арганізме дзяржавы, як і ў чалавека, ўсё ўзаемазвязана. І гэта таксама эканамічны закон, што калі апазіцыйныя лідэры, ды кандыдаты на галоўную пасаду краіны, і нават праваабаронцы знаходзяцца ў няволі, то і з звычайнымі лекамі, як і з іншымі рэчамі, пачынаюцца праблемы.

Толькі вось у гэтым выпадку, чамусьці, беларускімі спецыялістамі ад эканомікі абраны шлях на самалячэнне.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на кастрычнік2011 году

**2 кастрычніка**
115 гадоў таму (1896) – У мястэчку Любча (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Мікола Дучыц, беларускі мастак.

**4 кастрычніка**
270 гадоў таму (1741) – У в. Галаскоў (Івана-Франоўская вобл., Украіна) нарадзіўся Францішак Карпінскі, паэт-сентыменталіст, асьветнік. Жыў у сваім маёнтку Хорашаўшчына (Сьвіслацкі р-н).

**6 кастрычніка**
135 гадоў таму (1876) – У в. Асташына (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Ян Булгак, фотамастак, этнограф, краязнавец.

**8 кастрычніка**
20 гадоў таму (1991) – У Вільні памерла Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), беларуская пісьменьніца, грамадзка-культурная дзяячка. Пэўны час жыла ў Гародні. Пахавана на могілках Панерай.

**10 кастрычніка**
130 гадоў таму (1881) – У в. Асінаўка (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Ян Тарчэўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, нашанівец, настаўнік.

**12 кастрычніка**
250 гадоў таму (1761) – Шчучын атрымаў магдэбургскае права.

**15 кастрычніка**
95 гадоў таму (1916) – У Сьвіслачы адкрылася Беларуская настаўніцкая сэмінарыя.

**16 кастрычніка**
115 гадоў таму (1896) – Памерла Марыя Багдановіч (дзявочае Мякота, нар. у 1869 у Ігумене), маці Максіма Багдановіча. Пахавана ў Гародні на старых праваслаўных могілках.

**17 кастрычніка**
315 гадоў таму (1696) – Нарадзіўся Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай вялікі князь ВКЛ у 1733-66.

**18 кастрычніка**
415 гадоў таму (1596) – У Берасьці была падпісана царкоўная Унія. Была абвешчана ў царкве Сьв. Мікалая.
105 гадоў таму (1906) – У в. Зарудзічы (Смургонскі р-н) нарадзіўся Алесь Салагуб, беларускі паэт, публіцыст.
20 гадоў таму (1991) – У Маладэчне памёр Пятро Бітэль, беларускі пісьменьнік, паэт, перакладнік, пэдагог, праваслаўны сьвятар. Нараджэнец мяст. Радунь (Вараноўскі р-н). Пахаваны ў в. Вішнева (Валожынскі р-н).

**20 кастрычніка**
100 гадоў таму (1911) – У Карэлічах нарадзіўся Валянцін Рамановіч, беларускі мастак.
95 гадоў таму (1916) – У в. Ахматава (Алатырскі р-н, Чувашыя) нарадзіўся Алесь Сучок (сапр. Пятро Дабрыян) беларускі паэт, актыўны змагар за адкрыцьцё беларускіх школ на Гарадзеншчыне.
10 гадоў таму (2001) – Памёр Мікола Лук'янаў, беларускі мастак. Пахаваны ў Гародні на могілках па пpасп. Касманаўтаў.

**22 кастрычніка**
70 гадоў таму (1941) – На тэрыторыі Беларусі створана Беларуская народная самапомач.

**23 кастрычніка**
30 гадоў таму (1981) – У Менску памёр Якуб Міско, беларускі пісьменьнік, журналіст. Пахаваны на менскіх Паўночных могілках. Нараджэнец в. Чамяры (Слонімскі р-н).

**28 кастрычніка**
125 гадоў таму (1886) – Нарадзіўся Сьцяпан Войтанка, праваслаўны сьвятар (вучыўся ў Гародні, працаваў у Дварцы і Марозавічах Дзятлаўскага р-ну), дзеяч Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў ЗША.



***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***
**www.harodniaspring.org**

***Праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***
**www.spring96.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
верасень 2011
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

